ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 82(5264)
Аўторак,
24 ліпеня
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## “Я хачу, каб у маёй краіне быў аб'яўлены культ сям'і”

**Вера Трафімец, сацыёлаг, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:**

— На мой погляд, нам сёння трэба на ўсю моц гаварыць пра лёс сям'і як інстытута грамадства. Дзеці не павінны быць раскошай ні для бацькоў, ні для дзяржавы, інакш мы вырадзімся як нацыя. Трое дзяцей ў сям'і — сёння гэта амаль немагчыма.

Многія дзеці ў сем'ях пакутуюць і, на жаль, не толькі ад безадказнасці, скажам, бацькі. Ёсць на тое яшчэ мноства прычын. Яны існавалі і раней, так бы мовіць, да перабудовы. Маленькая заработная плата і адсутнасць нармальных жыллёвых умоў былі і засталіся “бічом” для большасці сем'яў. Прычым дэмагагічныя заявы былых кіраўнікоў пра імкненне да росту дабрабыту савецкага чалавека зусім не азначалі, што дабрабыт сям'і — адзін з прыярытэтных напрамкаў унутранай палітыкі. Сёння ўсе мы ўжо добра ўсвядомілі, што ў нас быў культ дзяржавы і культ калектыву, і не было культу сям'і. Болей за тое, дзяржава фактычна падмяняла сям'ю ў справе выхавання маладога пакалення, тым самым па сутнасці адмаўляючы ідэю, што менавіта сям'я з'яўляецца галоўным выхавацелем дзіцяці. Таму многія бацькі даручылі гэтую справу дзяржаўным органам: дзіцячаму саду, школе, вышэйшай навучальнай установе, камсамолу, міліцыі, арміі і інш.

Сёння становішча сям'і як інстытута ў грамадстве пагаршаецца, сям'я перажывае глыбокі крызіс. Дэідэалагізацыя прывяла да таго, што дзяржава ўжо не разглядае выхаванне новага пакалення як сваю непасрэдную задачу, а перакладае яе на сям'ю, школу і царкву. Безумоўна, дзяржава не ўхіляецца поўнасцю ад выхаваўчага працэсу, але яна ўдзельнічае ў ім апасродкавана, супрацоўнічаючы і дапамагаючы. Сям'і сёння няпроста вярнуцца да свайго непасрэднага абавязку — выхавання, тым болей што гэта — цяжкая праца, якая патрабуе ад бацькоў пэўных намаганняў, адказнасці і нават мужнасці. Але хто іх гэтаму вучыў? Як правіла, бацькоўскія абавязкі зводзіліся і зводзяцца да таго, каб накарміць, апрануць і абуць дзіця. Пры гэтым на маральна-псіхічнае здароўе маладых людзей, развіццё ў іх эстэтычнага пачуцця і густу, на фарміраванне культу здароўя, выхаванне законапаслухмянага грамадзяніна і г.д. увага не звярталася. Безумоўна, патрабаваць гэтага ад праблемнай, нестабільнай, матэрыяльна ніяк не забяспечанай сям'і практычна немагчыма. А такіх сем'яў у нашым грамадстве, на жаль, большасць. Больш за тое, такія сем'і не толькі не могуць даць дзіцяці неабходнае ў плане выхавання, а што самае жудаснае — яны фактычна пазбаўляюць маленькага чалавека яго дзяцінства і тым самым падштурхоўваць да антысацыяльных паводзін. Таму я вельмі хачу і мару пра тое, каб у маёй Беларусі быў аб'яўлены культ сям'і і каб дзяржава гэтаму ўсебакова садзейнічала. Толькі тады, лічу, у краіне дзяцінства будуць жыць шчаслівыя яе грамадзяне — нашы з вамі дзеці.

## Новы дом патрабуе трывалага фундаменту

**Людміла Аляксандраўна Анікеева, загадчык аддзела адукацыі Аршанскага гарвыканкама:**

— Як кіраўніка сферы адукацыі мяне вельмі хвалюе праблема якасці кіравання. На другім з'ездзе настаўнікаў, а ўпаўне магчыма, што дэлегатам яго я буду і, мабыць, давядзецца і выступіць з яго трыбуны — я б гаварыла пра тое, ад чаго мы, практыкі, сёння пакутуем у штодзённай рабоце, што замінае нам. А пакутуем мы ад недасканаласці нарматыўна-прававой базы, пачынаючы з Закона аб адукацыі. Дарэчы, пра гэты дакумент. Ад нашага рэгіёна ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь інтарэсы настаўніцтва прадстаўляе былы дырэктар сярэдняй школы № 19 Оршы Уладзімір Пятровіч Печанькоў, чалавек, які, мабыць, як ніхто іншы, ведае патрэбы і праблемы настаўнікаў. Новы праект мы размножылі і абмеркавалі ў педагагічных калектывах і праз нашага дэпутата ўнеслі змяненні і дапаўненні ў яго змест. Прайшоў час. У свет выйшаў праект закона аб адукацыі ў новай рэдакцыі, аднак мы заўважылі, што нашы прапановы не былі ўлічаны. І увогуле, на наш погляд, новы праект Закона аб адукацыі не стаў лепшым за папярэдні.

Сёння мы гаворым аб рэформе нацыянальнай адукацыі, вобразна кажучы, фактычна будуем новы дом. А фундамента трывалага пад гэты дом пакуль не маем. Я маю на ўвазе нарматыўна-прававую базу. Ну, вось, скажам, дагэтуль не маем палажэння аб аддзеле адукацыі, таго, што канкрэтна мяне хвалюе. У рэгіёнах мы пішам яго самі. Дзевяць чалавек ў аддзеле спецыялістаў і метадыстаў — гэта, я лічу, па-першае, мала. А, па-другое, хіба могуць забяспечыць кантрольную функцыю аддзела тры чалавекі (па штатным раскладзе) на якасным узроўні?

Безумоўна, не! Я ведаю, што многа пытанняў юрыдычнага характару ёсць і ў кіраўнікоў агульнаадукацыйных школ і новых тыпаў навучальных устаноў. Калі школа, згодна Закона аб адукацыі, па-за палітыкай, чаму тады кіраўнікоў навучальных устаноў сёння абавязваюць прымаць удзел у выбарчай кампаніі?

Мы пачалі фарсіраваны пераход на новы змест адукацыі, многага не прадумаўшы як след. Настаўніку сёння ў школе цяжка, асабліва творчаму, які хоча працаваць па новых педагагічных тэхналогіях. А метадычных распрацовак катастрафічна не хапае. Усё глядзім у бок Расіі і спадзяемся на расіян. Дзякуй вялікі АПА. Вось дзе сёння думаюць пра творчага настаўніка!

**Падрыхтавала Святлана БЕНЬ.**



Фота Юрыя БОНДАРАВА.

Б'ём трывогу!

## Асцярожна на вадзе

Паводле паведамленняў сродкаў масавай інфармацыі і службы выратавання, у краіне склалася трывожная сітуацыя, звязаная з гібеллю людзей на вадаёмах. Усяго за бягучы год патанула 665 чалавек, у тым ліку 102 дзіцяці. Асаблівую занепакоенасць выклікае сітуацыя летніх спякотных месяцаў. Да вадаёмаў накіроўваецца шмат людзей.

У сувязі з гэтым Міністэрства адукацыі звяртае ўвагу органаў кіравання адукацыяй і вучэбна-выхаваўчых устаноў на неабходнасць выкарыстання ўсіх наяўных магчымасцей для папярэджання няшчасных выпадкаў з дзецьмі на вадаёмах і прапануе:

* забяспечыць няўхільнае выкананне правілаў купання ў перыяд знаходжання ў аздараўленчых летніках, турыстычных паходах, пры правядзенні іншых арганізаваных мерапрыемстваў з дзецьмі і навучэнскай моладдзю;

* праводзіць растлумачальную работу сярод дзяцей, навучэнцаў і студэнтаў, а таксама іх бацькоў пра небяспеку індывідуальнага купання ў неўстаноўленыхі не прыстасаваных для гэтых мэт месцах, у незнаёмых вадаёмах, а таксама непаўналетніх без нагляду дарослых;

* выкарыстоўваць мясцовыя сродкі масавай інфармацыі (газеты, радыё, тэлебачанне) для прыцягнення ўвагі грамадскасці да праблемы няшчасных выпадкаў з дзецьмі на вадаёмах і адказнага стаўлення дарослых да дзяцей, якія купаюцца і знаходзяцца каля рознага віду вадаёмаў;

* уносіць прапановы мясцовым выканаўчым і распарадчым органам аб прывядзенні ў парадак месцаў купання дзяцей у населеных пунктах, аб кантролі іх з боку службы выратавання, усталяванні знакаў, якія забараняюць купанне ў неўстаноўленых месцах.

**Алег СЛУКА, намеснік міністра.**

Лета–2001

## Светлагорская “Чайка”

***“Чайка” — так называецца дзіцячы аздараўленчы летнік, які ўваходзіць у склад санаторыя-прафілакторыя “Сярэбраныя ключы” вытворчага аб'яднання “Хімвалакно” Светлагорска.***

***Гэтая здраўніца Гомельшчыны працуе ўжо больш як 30 гадоў, мае статус рэспубліканскага значэння, уяўляе сабой лячэбна-аздараўленчы комплекс, куды ўваходзіць і дзіцячы аздараўленчы цэнтр “Чайка”. Сюды прыязджаюць дзеці з раёнаў, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.***

Месца выбрана адметнае: санаторый-прафілакторый размешчаны на правым беразе ракі Бярэзіны, у хваёвым лесе. Тут цудоўныя пясчаныя пляжы. Паветра насычана водарам траў і соснаў. Гэты маляўнічы куток прыроды да таго ж з'яўляецца экалагічна чыстым.

Дзеці ў летніку праходзяць поўны курс рэабілітацыі (медыцынская, псіхолага-карэкцыйная, фізічная).

Медыкаментозная рэабілітацыя ўключае ў сябе некалькі блокаў. Для стымуляцыі імунітэту і паляпшэння абменных працэсаў выдаюць спіруліну, полівітаміны, чай Фітагор, антыгельмінтозныя прэпараты, адсарбенты. Плюс да гэтага — праводзіцца лячэнне асноўных і спадарожных захворванняў. У двух карпусах налічваецца больш за 40 лячэбных кабінетаў. Дзейнічаюць фітабар, гразе- і водалячэбніца, зала лячэбнай фізкультуры, кабінеты масажу, электралячэння і г.д. А якая цудадзейная тут мінеральная вада!

Дзякуючы намаганням галоўнага ўрача санаторыя-прафілакторыя Паўла Андрэевіча Малышэнкі практыкуюцца найноўшыя, нетрадыцыйныя метады лячэння, мануальная тэрапія, Су-Джок-тэрапія, іголкаўколванне, працуюць псіхатэрапеўт, валеолаг, псіхолагі.

Адно з апошніх новаўвядзенняў — “Горнае паветра” — удыханне паветра з паніжаным утрыманнем кіслароду. Галоўная яго асаблівасць, па выніках даследаванняў, праведзеных тут Гомельскім беларуска-галандскім цэнтрам радыяцыйнай медыцыны, — зніжэнне ўтрымання цэзію-137 за курс лячэння ў 1,5-2 разы.

Згодна з пастановамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь “Аб арганізацыі навучання вучняў у месцах аздараўлення і санаторна-курортнага лячэння” ў “Чайцы” вось ужо тры гады арганізаваны вучэбна-выхаваўчы працэс, у аснову якога пакладзена “Канцэпцыя аздараўлення і выхавання”, галоўнай мэтай якой з'яўляецца стварэнне ўмоў для станаўлення і развіцця адукацыйнай, творчай, духоўнай і фізічна здаровай асобы. За гэтым сочыць намеснік галоўнага ўрача па навучальна-выхаваўчай рабоце і арганізацыі вольнага часу Іна Васільеўна Чэпік.

Для правядзення вучэбных заняткаў абсталяваны 9 класаў, 5 майстэрняў па дэкаратыўна-прыкладной творчасці, класы экалогіі, валеалогіі, музычнай адукацыі, этнаграфіі. Вучэбныя класы маюць неабходнае абсталяванне і наглядныя дапаможнікі, ёсць метадычная літаратура, аўдыё- і відэаапаратура. Для дзяцей працуе бібліятэка, якой загадвае Таццяна Янакаўна Грыгарук. У чытальную залу паступае больш за 70 дзіцячых выданняў — расійскіх і беларускіх.

Вучэбныя заняткі з'яўляюцца састаўной часткай рэжыму дня і строга абавязковыя для школьнікаў, якія праходзяць аздараўленне. За аснову бярэцца вучэбная праграма (варыянт 2), зацверджаная аддзелам па праблемах наступстваў катастрофы на ЧАЭС Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Адным з важных звенняў комплекснага аздараўлення, акрамя лячэння і вучэбнага працэсу, ёсць працэс выхаваўчы, у якім выкарыстоўваюцца розныя віды педагагічных падыходаў. Арганізацыяй вольнага часу дзяцей займаецца загадчык культурна-забаўляльнай дзейнасці санаторыя-прафілакторыя Віталь Яўгенавіч Драніца. З дзецьмі праводзяцца тэатралізаваныя прадстаўленні, гульні, эстафеты, масавыя тэматычныя святы, сюжэтна-ролевыя гульні, гульневыя дыскатэкі, прагляд відэафільмаў і г.д. Для заняткаў па інтарэсах, развіцця творчых здольнасцей у кожным корпусе ёсць гульневыя пакоі.

Асаблівая ўвага ў аздараўленні дзяцей удзяляецца рухальнай актыўнасці, таму што пры гэтым з арганізма выводзяцца радыенукліды.

На тэрыторыі ДЦЗ дзейнічаюць спецыяльна абсталяваныя спартыўныя і гульневыя пляцоўкі, стадыён, “сцежкі здароўя”, ёсць тэнісныя і більярдныя сталы. Акрамя штодзённых прагулак на свежым паветры, прабежак, заняткаў у спартыўных гуртках і секцыях праводзяцца турыстычныя паходы, спартыўныя святы, спаборніцтвы, веласіпедныя прагулкі, прагулкі выхаднога дня, паходы па перасечанай мясцовасці, турыстычныя эстафеты і многае іншае. Хутка ўвойдзе ў строй спартыўна-аздараўленчы комплекс з двума плавальнымі басейнамі, трыма саунамі, валейбольнай і баскетбольнай пляцоўкамі, тэнісным кортам, більярднай і трэнажорнай заламі, што якасна дапоўніць лячэнне, аздараўленне і правядзенне вольнага часу дзяцей.

Вялікае месца займае экалагічнае выхаванне, асноўным накірункам якога з'яўляецца экалагічнае навучанне ва ўмовах аздараўлення. Заняткі з'яўляюцца абавязковымі і ўключаюцца ў вучэбны расклад. Пры экалагічным цэнтры, якім кіруе Святлана Аляксандраўна Содзель, ёсць жывы куток. Дадаткова праводзяцца іншыя формы работы: лекцыі, дыскусіі, экскурсіі, паходы, экспедыцыі, конкурсы, экалагічныя назіранні і г.д.

Прадметам гонару санаторыя-прафілакторыя з'яўляецца Дом творчасці “Сузор'е”, які ладзіць экскурсіі, заняткі гуртка “Фларыстыка”. Іх вядзе Ганна Мікалаеўна Максімава, мастак па спецыяльнасці. У выставачнай зале Дома творчасці прадстаўлена больш як тысяча экспанатаў лепшых прац дзяцей, якія знаходзяцца на аздараўленні, займаюцца ў гуртках па дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Гэта — саломапляценне, аплікацыя з саломы, роспіс па дрэве, ніткаграфія, ізаніць, маляванне, выпальванне, архітэктура з прыроднага матэрыялу і г.д. Ёсць і этнаграфічны куток, дзе праходзяць урокі этнаграфіі.

Адным з галоўных кампанентаў у рэабілітацыі здароўя з'яўляецца правільнае, 6-разовае, паўнацэннае харчаванне. Дзеці атрымліваюць тут збалансаваныя высокакаларыйныя абеды, кожны дзень — сокі і садавіну.

У сваіх гутарках вучні вельмі цёпла згадваюць працу педагагічнага і абслуговага персаналу, задаволены арганізацыяй вольнага часу: “Тут не засумуеш”. Цікавая для іх і найноўшая методыка правядзення ўрокаў.

Дадому выхаванцы прыязджаюць больш свежымі, прыбавіўшы ў вазе, паправіўшы сваё здароўе.

Вопыт работы санаторыя-прафілакторыя “Сярэбраныя ключы” вытворчага прадпрыемства “Хімвалакно” па аздараўленні дзяцей вывучаўся на праведзеным тут рэспубліканскім форуме па праблемах аздараўлення і санаторна-курортнага лячэння дзяцей Беларусі.

**Тамара ШАЎЧЭНКА.**






Вышэйшая школа

## На прадпрыемствы хутка прыйдуць маладыя інжынеры

***2963 выпускнікі Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі атрымалі сёлета дыпломы інжынераў, з якіх больш за 360 — з адзнакай. Старшынямі 89 дзяржаўных экзаменацыйных камісій былі міністры, іх намеснікі, акадэмікі, дырэктары буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў, будоўляў.***

Упершыню за ўсю 80-гадовую гісторыю ў БДПА адбыўся выпуск горных інжынераў для падземных работ. Раней іх для салігорскіх шахтаў рыхтавалі тэхнічныя ВНУ Масквы, Ленінграда, Свярдлоўска, Харкава, Днепрапятроўска, іншых гарадоў былога Савецкага Саюза.

Пакуль іх, нашых выпускнікоў па гэтай спецыяльнасці, усяго сямёра. Але знамянальна, што старшынёй дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі быў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу краіны П.А.Калугін, да нядаўняга часу — генеральны дырэктар ВА “Беларуськалій”.

Цікавая дэталь. Падчас абароны дыпломных праектаў высветлілася, што Пётр Калугін асабіста ведае дзядоў і бацькоў пяцярых выпускнікоў. Старэйшае пакаленне многія гады аддало працы на шахтах Салігорска, а маладыя людзі, сённяшнія выпускнікі, прыехалі вучыцца ў БДПА менавіта з гэтага горада і цяпер — прадоўжыць працоўныя традыцыі сваіх шахцёрскіх сем'яў.

**Васіль ПРАКОП'ЕЎ.**

Семінары

## Дзеці называюць выхавальніц матулямі

***У Радашковіцкай школе-інтэрнаце дацэнт БДПУ імя М.Танка Алена Савельеўна Шылава правяла семінар-практыкум па тэме “Новыя педагагічныя тэхналогіі навучання і выхавання і магчымасці іх выкарыстання ва ўмовах інтэрнатнай установы”.***

Названы семінар-практыкум — гэта пачатак адказнай работы школы-інтэрната па вывучэнні і ўкараненні ў практыку дзейнасці новых адукацыйных тэхналогій. Кіраўніцтвам гэтага вучэбнага і даследчага працэсу будуць займацца Алена Савельеўна Шылава і Алена Эдуардаўна Цішчанка — старшы выкладчык ІПК.

А ў другім паўгоддзі спецыялістаў інтэрнатнай установы з Радашковіч педагогаў чакаюць праблемныя курсы "Сучасныя падыходы да арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ва ўмовах інтэрнатнай установы". І дырэктар — Анатоль Аляксандравіч Вятоха, і яго намеснікі — Ганна Дзмітрыеўна Поклад, Зоя Міхайлаўна Макляк — за творчае супрацоўніцтва з Мінскім абласным ІПК.

У школе-інтэрнаце ствараюцца ўсе неабходныя ўмовы для развіцця ў дзяцей здольнасцей па тых або іншых прадметах. Перш за ўсё гэта сетка факультатываў і курсаў па выбары, максімальна набліжаная да інтарэсаў дзяцей. Наладжана камп'ютэрнае навучанне па курсе “Інфарматыка”. Ажыццяўляецца працэс пераходу на дзесяцігадовае навучанне, адкрыты падрыхтоўчы клас.

Вельмі важным лічыцца ў школе эстэтычнае выхаванне дзяцей. Яны займаюцца падрыхтоўкай і правядзеннем святочных канцэртаў, наведваюць музеі, канцэртныя і выставачныя залы, тэатры і цырк, штогод паспяхова прымаюць удзел у традыцыйным свяце “Вясёлкавы карагод”.

Фізічная праца, самаабслугоўванне, уменне карыстацца прыладамі і інструментамі, шыць і гатаваць ежу — важны бок жыцця выхаванцаў. Акрамя работ на прышкольным участку яны займаюцца пастаяннай дапамогай лясніцтву, камунальнай гаспадарцы пасёлка Радашковічы, калгасу.

Педагагічны калектыў лічыць неабходным стварэнне ўмоў для развіцця прыродных здольнасцей дзяцей, задавальненне іх жадання займацца любімай справай. У школе створана сетка гурткоў для заняткаў па інтарэсах (усяго іх 17).

Выхаванне чалавечнасці — прыярытэтная задача школы-інтэрната. Але ўсе ж важней — знайсці для дзіцяці сям'ю. За тры гады 15 дзетак уладкаваны ў сем'і. Дзевяць з іх вернуты бацькам, якія раней былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў.

Уся праца выхавальнікаў, якімі кіруе намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце З.М.Макляк, грунтуецца на аснове сардэчных, даверлівых адносін з выхаванцамі. Тое, што дзеці называюць некаторых сваіх выхавальніц матулямі — таму сведчанне. А вось пастаянныя ўсмешкі на тварах, цеплыня ў адносінах — гэта ўжо заслуга педагагічнага калектыву. У школе трывала замацаваліся добрыя традыцыі: святкаванне Дня імянінніка, штогадовых дзяржаўных свят, спартыўныя спаборніцтвы каманд выхаванцаў і супрацоўнікаў, вечары сустрэч з былымі вучнямі. Ніводзін год не спынялася цімураўская работа; сёння штотыднёвую дапамогу старшыя выхаванцы аказваюць 48 сем'ям ветэранаў вайны і працы. У зоне асаблівай увагі знаходзяцца і былыя педагогі школы-інтэрната г.п. Радашковічы.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ.**

Новыя падыходы

# На ціхай вулачцы

***На невялікай ціхай вулачцы знаходзіцца гімназія №1 (былая школа №6 Слоніма), якая пачала працаваць з 1 верасня мінулага года. Што і гаварыць, узрост — дзіцячы.***

У гэтай установе робяць усё магчымае для таго, каб дзеці, якія тут вучацца, былі здаровыя, вясёлыя і шчаслівыя, каб кожны дзень жыцця ў гімназіі даваў ім упэўненасці ў сабе і сваіх сілах, каб любы выявіў тут свой талент і сферу сапраўдных зацікаўленняў у жыцці. І зразумела, як навучальнай установе новага тыпу нам вельмі хочацца даць дзецям добрую адукацыю, стварыць аптымальныя ўмовы для іх развіцця, задаволіць патрэбы вучняў і пажаданні бацькоў.

Першыя крокі — заўсёды цяжкія, але, мабыць, былі б яны яшчэ больш цяжкімі, калі б мы не мелі своечасовай дапамогі і падтрымкі з боку аддзела адукацыі Слонімскага гарвыканкама.

І ўсё ж нават за такі кароткі тэрмін нашы вучні адчулі, што яны займаюцца ў гімназіі.

Пачынаючы з падрыхтоўчых класаў гімназісты маюць магчымасць вывучаць англійскую мову, а з пятага класа — другую мову — нямецкую. Тут вялікіх праблем не было, бо працуюць у нас добрыя выкладчыкі-лінгвісты. Дарэчы, створана гімназія на базе школы з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы.

Хочацца, каб нашы вучні мелі магчымасць добра авалодаць камп'ютэрам, тым больш што дома яго маюць далёка не ўсе. З гэтай мэтай распрацавана праграма камп'ютэрызацыі, складзены курс для вучняў 3 — 6 класаў "Уводзіны ў інфарматыку", настаўнікі пачатковых і 5 — 11 класаў праводзяць асобныя ўрокі з выкарыстаннем камп'ютэраў. Падключылася гімназія і да Інтэрнэта, што, безумоўна, прыйшлося даспадобы і дзецям, і настаўнікам.

Сёння замежныя мовы і валоданне камп'ютэрам — вельмі неабходныя, але інтарэсы вучняў — самыя разнастайныя, ды і патрабаванні бацькоў — шырокія. Таму згодна з пажаданнямі вучняў і бацькоў у гімназіі працуюць профільныя класы — для васьмікласнікаў філалагічны і матэматычны. А дзякуючы індывідуальным і групавым заняткам дзеці маюць магчымасць займацца на курсах па дадаткова абраных імі прадметах.

Праўда, мы яшчэ не зусім задаволены тым, што можам прапанаваць вучню, але задумкі на перспектыву ёсць. Гэта курсы па логіцы і культуралогіі, праве і эканоміцы і многае іншае. Вялікія надзеі тут мы ўскладаем на вышэйшая навучальныя ўстановы, з якімі заключылі дамовы аб супрацоўніцтве, тым больш што Мінскі лінгвістычны універсітэт ужо аказаў нам першую дапамогу (нашы выкладчыкі мелі магчымасць атрымаць кансультацыі і вучэбныя матэрыялы, якія так неабходны настаўніку ў рабоце), за што мы вельмі ўдзячныя.

Многае робіцца ў гімназіі, каб перавесці вучэбны працэс у вучэбна-даследчы, каб наша ўстанова стала сапраўды школай мыслення. Бо "...сіла мыслення, — як пісаў Л.Феербах, — ёсць свет пазнання..." А каб навучыць гэтаму, педагог і сам павінен быць высокім прафесіяналам, добрым даследчыкам дый проста цікавым чалавекам. Для настаўнікаў працуе навукова-тэарэтычны семінар па сучасных педагагічных тэхналогіях. Вялікую ўвагу кафедры ўдзяляюць самаадукацыі выкладчыкаў, павышэнню іх прафесійнага майстэрства. Настаўнікі цікавяцца ўсім новым, выпрабоўваюць на практыцы новыя тэхалогіі, бо сёння кожны перакананы, што выкладчык у ролі інфарматара сучаснаму вучню проста не патрэбны. А тэхналагічнае навучанне, у сваю чаргу, прадугледжвае і актыўную ролю вучня на ўроку.

Зразумела, нялёгка настаўніку сёння. Многае даводзіцца рабіць сваімі рукамі. Але — "не хлебам адзіным жыве чалавек". І конкурс на званне "Лепшы настаўнік года", праведзены ў гімназіі, пацвердзіў, што сярод педагогаў многа таленавітых, пасапраўднаму адданых дзецям і сваёй справе настаўнікаў. Цяжка працавалася журы, але конкурс ёсць конкурс, таму пераможца была вызначана. Ёю стала выкладчыца англійскай мовы Людміла Рыгораўна Курдун, якая мае дадатковую спецыяльнасць псіхолага.

Толькі творчы настаўнік можа выхаваць творчую асобу дзіцяці. Што б мы ні гаварылі пра сучасных падлеткаў, а ўсё ж яны вельмі цікаўныя людзі — дапытлівыя, іх вабіць усё на свеце. І так хочацца падтрымаць гэтую жывую дапытлівасць! Таму мы і пашыраем наш бібліятэчны фонд даведачнай і навукова-пазнавальнай літаратурай, маем багатую падпіску.

У гімназіі створана і навуковае таварыства вучняў і педагогаў "Пошук". Дзеці актыўна ўключыліся ў навукова-даследчую работу па розных напрамках. На працягу года імі праведзена вялікая работа па вывучэнні неабходнай літаратуры, матэрыялаў мясцовых музеяў, Жыровіцкага манастыра. Галоўнае — такая праца выклікае прагу да ведаў, нясе пэўныя адкрыцці.

Вялікім поспехам карыстаўся гімназічны інтэлектуальны марафон, калі ўсе вучні выйшлі на старт. Заданні былі адабраны па 4 кірунках: англійская і руская мовы, матэматыка і інтэграваны напрамак, які ўключаў заданні па літаратуры, гісторыі, культуры. Гэта было сапраўды цікава. Спіс дзесяці вучняў кожнага класа, якія набралі большую колькасць балаў, больш за тыдзень быў прыцягальным аб'ектам для ўсіх гімназістаў. Тоўпіўся народ ад малога да вялікага каля табліцы вынікаў. А колькі ўражанняў было! Урэшце, вырашылі, што кожны год марафон будзе выходзіць на старт, бо тут нікога не крытыкавалі, не было спісу тых, хто пакуль што застаўся ў хвасце — былі толькі названы лепшыя. Ды добра падчас праверыць і сябе, даведацца, чаго ты варты.

Цікавасць вучняў да ўсяго, што адбываецца вакол, добрая ініцыятыва сведчаць пра тое, што напрамак абраны правільны.

І хоць наперадзе цяжкая праца і многа клопатаў ды турбот, але радуе тое, што гараць вочы дзяцей, што ім хочацца ўсё ведаць. І гэта натхняе.

**Ганна КАНАПІНЬ,**
**намеснік дырэктара па навукова-метадычнай рабоце гімназіі №1 Слоніма.**

У дапамогу выпускніку школы

# Цікавы суразмоўца

***Сярод неэматлікіх дапаможнікаў па рускай літаратуры, адрасаваных выпускнікам агульнаадукацыйнай школы для падрыхтоўкі да іспытаў, дастаткова цікавым і вартым увагі з'яўляецца зборнік "Русская литература в вопросах и ответах" (1999 г.), прадстаўлены аўтарам Тамарай Фёдараўнай Мушынскай, кандыдатам педагагічных навук, старшым навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага інстытута адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

Агульнае ўражанне ад працы самае добрае — гэта кніга-настаўнік. Яна мае шэраг вартасцей: змястоўная, навуковая, прасякнутая любоўю да рускай літаратуры, паважлівым стаўленнем да асобы вучня, напісаная адметнай літаратурнай мовай.

Гэты дапаможнік сваёй практычнай мэтазгоднасцю цалкам адпавядае задачам сучаснай сярэдняй школы і тым напрамкам літаратурнай адукацыі вучняў, якія прадугледжаны школьнай праграмай, дзе ў прыватнасці, гаворыцца, што галоўнай мэтай вывучэння рускай літаратуры з'яўляецца "далучэнне вучняў да мастацтва слова — развіццё на гэтай глебе ў іх мастацкага мыслення і эстэтычных пачуццяў, творчых здольнасцей, чытацкай і моўнай культуры, фарміраванне маральна-эстэтычных арыентацый".

Матэрыял дапаможніка падабраны на аснове традыцыйнага хрэстаматыйнага кола чытання (змест згаданых мастацкіх твораў проста нельга не ведаць), а таксама паводле прынцыпу варыятыўнасці, гэта значыць абумоўленасці выбару.

У пытаннях, якія ўтрымліваюць гісторыка-літаратурны матэрыял, аглядныя тэмы чаргуюцца з манаграфічнымі і з тэмамі асабістага гучання.

Безумоўную цікавасць уяўляюць метады пабудовы, якасць зместу, мова тэкстаў-выказванняў.

Кампазіцыйная мадэль усіх тэкстаў у дапаможніку дастаткова гнуткая. Кожнае паведамленне — як непарыўная лінія. Плаўная хада думкі робіць зусім незаўважным пераход з адной часткі тэкста ў другую. Вучань вольны расстаўляць у тэксце свае акцэнты: на аснове тэксту-выказвання ён можа стварыць кароткі звязны тэкст альбо, фарсіруючы асобныя яго часткі, даць больш падрабязнае асвятленне якой-небудзь тэмы.

Кампаноўка матэрыялу, лагічна ўпарадкаваная, дакладна паслядоўная, вызначаецца структурнай выразнасцю. Кожнае паведамленне начынаецца з найбольш важкіх аргументаў і адпавядае акадэмічнай схеме: тэзіс-доказ-вынік.

Што да разгляду зместу кнігі, то трэба адзначыць перш за ўсё сэнсавую цэласнасць тэксту, ягоную глыбіню і эмацыянальнасць.

Аўтарка дапаможніка фармулюе пытанні-заданні такім чынам, каб галоўная думка ў логіцы разважанняў вучня была выбрана правільна. Гэта вядзе і да правільнага чытацкага адчування: калі вучань не толькі разумее сутнасць праблемы альбо характару персанажа, але і здольны спачуваць, чула і арганічна існаваць у прапанаваных абставінах.

Матэрыял дапаможніка дае рэальныя магчымасці для цікавага, жывога абмеркавання пытання, у кожным тэксце-выказванні вызначаюцца наперад умовы, якія актывізуюць, а дакладней, спрыяюць актывізацыі ўяўлення, творчай інтэрпрэтацыйнай дзейнасці вучня, у выніку чаго, сам таго не заўважаючы, ён пераўтвараецца ў сааўтара. Адна з такіх умоў — эмацыйнае залучэнне чытача ў рэальную сітуацыю, калі старыя, вядомыя ісціны ўспрымаюцца як новыя, калі раскрываецца здольнасць выказаць думку натхнёна і нават метафарычна яскрава, гэта значыць ствараецца такое поле ўзаемнасці, дзе пануе асаблівы настрой — узыходжанне да інтэлектуальна-ўзнёслых пачуццяў: захаплення, здзіўлення, прыналежнасці, велікадушнасці і г.д. Менавіта эмоцыі вызначаюць вобразнасць мовы, нестандартнасць, свабоду ад штампаў.

Дастаткова цікава, на мой погляд, прадстаўлена тэма "А.С.Пушкін аб прызначэнні паэта і паэзіі" (с.19). Усе складнікі ідэйна-мастацкага даследавання паэтычнага твора (галоўная думка, тэматычная скіраванасць, мастацкія асаблівасці) пададзены ў завершаным гарманічным спалучэнні.

Аўтарская мова — інтанаваная, чуйная. Яе эмацыйнасць — у натуральнасці, шчырасці пачуццяў. Стыль выказвання — камунікатыўны. Увага чытача канцэнтруецца імгненна, і ён з лёгкасцю ідзе за апавядальнікам. Адэкватна ствараецца душэўны водгук, які рупліва трымае і нясе складаныя думкі і перажыванні.

Чытач нават не заўважае, як ён пачынае чуць свой голас! Гэты голас — святло. Ён ідзе з глыбіні душы. Голас — адкрыццё. Мабыць, так і пачынаецца шлях самапазнання, калі эмацыйны ключ у тваіх руках — і вітаю, натхненне!

Гэта — хвіліны такога ўнутранага стану, такога настрою, калі бачыш і чуеш, што схавана за зместам тэксту; ён зрабіўся тваім, і табе ёсць што сказаць праз гэты матэрыял.

Псіхолагі лічаць, што "змест тэксту ёсць тое, што спараджаецца ўнутры і ў працэсе ягонага ўспрымання, чытання, і тлумачэння" (часопіс "Психологическая наука и образование", 1997 г., №1).

Эмацыйным кампанентам у аўтарскім выкладанні з'яўляюцца таксама стасоўна падабраныя фрагменты з мастацкіх твораў, у прыватнасці прапанавана адно з лепшых апавяданняў Івана Буніна "Антонаўскія яблыкі" і надрукаваны ўрывак з яго: "...Помню раннее, свежее, тихое утро... Помню большой, весь золотой, подсохший сад, помню кленовые аллеи, тонкий аромат опавшей листвы и — запах антоновских яблок, запах мёда и осенней свежести. Воздух так чист, точно его совсем нет..." (с.52).

Такім чынам, апавядальная, псіхалагічная, стылёвая манера аўтара-складальніка звяртаецца да ўнутраных пачуццяў чытача, скіравана перш за ўсё на творчае разуменне матэрыялу, а не на завучванне чужых думак. Гэта — той выпадак, калі школьніка вучаць і развіваюць. У такой манеры напісаны ў асноўным усе артыкулы дапаможніка. І, бадай, слушная будзе заўвага, што дзецям, якія здольны чытаць мастацкую літаратуру, прыемна мець пад рукой такі арыгінальны тэкст, які вольны ад усялякіх штампаў і дыхае свежасцю і навізной.

Дапаможнік напісаны мяккім і зграбным стылем. Мова аўтаркі — выразная, захоўвае лексічную разнастайнасць, афарбавана светлым меладычным гучаннем. Тут няма зашмальцаваных фраз пра мову і стыль мастацкіх твораў. Майстэрства таго ці іншага пісьменніка раскрываецца рупліва і запаветна, з любоўю і захапленнем: "Чем так пленяют нас пушкинские строки, посвященные любви? Чистотой и ясностью чувства, поэтичностью духовного мира поэта, силой и глубиной любви, высокой человечностью. Читая, мы чувствуем и сознаём, что человек для другого человека может стать открытием мира, открытием красоты и поэзии..." (с.43).

Аўтарка дапаможніка метадычна і доказна праводзіць думку, што мастацкая літаратура — гэта мастацтва слова. А таму чытач ні на хвіліну не забывае, што прасторавае поле мастацкага тэксту (эпізод, сцэна альбо апавяданне) — гэта не толькі, дапусцім, здарэнне з жыцця літаратурнага героя, гэта яшчэ і эстэтычная лабараторыя, майстэрня мастака слова, куды не адразу і не кожнаму адчыняюцца дзверы. Яны адчыняюцца толькі таму, хто рупліва ставіцца да мастацкай літаратуры, хто шукае сур'ёзных кантактаў з ёй, калі вельмі істотная, як сказаў доктар педагагічных навук Б.Г.Мешчаракоў, — не якасць завучвання, а паўната і глыбіня разумення.

Кніга Т.Ф.Мушынскай — добры, надзейны дарадца і для адоранага вучня, каб дакладней выявіць свае ідэі і меркаванні, і для тых дзяцей, якія проста любяць мастацкую літаратуру, нядрэнна арыентуюцца ў тэксце. Яны могуць вылучаць асноўныя эпізоды і вызначаць іх кампазіцыйна-сэнсавую ролю ў творы, уласную эмацыйна-ацэначную рэакцыю на герояў-персанажаў і іхнія учынкі.

Для такіх вучняў гэты дапаможнік — проста неабходны, таму што ён вучыць не толькі правільна і лагічна будаваць мову, лаканічна і змястоўна выказвацца па асобных літаратурных тэмах, але і аналізаваць твор у шчыльнай злучнасці з эстэтычнымі задачамі, захоўваючы жывую повязь паміж ягонай ідэйнай і мастацкай сутнасцю. У дадатак да ўсяго тэкст дапаможніка мае сігнальныя словы, пазначаныя тлустым шрыфтам.

Дапаможнік з'яўляецца цікавым суразмоўцам і для настаўніка, асабліва для пачаткоўца.

Матэрыялы гэтай кнігі — каштоўныя і карысныя тым, што канкрэтна і грунтоўна спрыяюць выпускніку ў падрыхтоўцы да іспытаў.

Кожны новы дапаможнік, які палягчае працу і вучня, і настаўніка, сустракаецца з вялікай зацікаўленасцю, а ў найбольш удалых выпадках — з глыбокай прыязнасцю і ўдзячнасцю.

Кніга Т.Ф.Мушынскай і ёсць такі дапаможнік.

**Элеанора ГАРБУНОВА,**
**настаўніца сярэдняй школы №50 Мінска.**

Сацыяльная дапамога

# Бяду адолеем разам

***У Партызанскім раёне сталіцы дзейнічае тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. У цэнтр звяртаюцца сацыяльна не абароненыя людзі, у тым ліку шматдзетныя сем'і, адзінокія маці, інваліды і адзінокія пенсіянеры. Тут яны могуць атрымаць кваліфікаваную дапамогу псіхолага, юрыста, сацыяльнага педагога. Усе кансультацыі спецыялісты цэнтра праводзяць бясплатна. Пры неабходнасці юрыст і псіхолаг могуць выязджаць на дом, напрыклад, да інвалідаў.***

Многія жыхары Партызанскага раёна сапраўды маюць патрэбу ў такой дапамозе. За час існавання цэнтра з рознымі пытаннямі да нас звярнуліся больш за 600 чалавек. Па тэлефоне "Гарачай лініі" з просьбай аб дапамозе пазванілі 315 чалавек.

Са студзеня гэтага года пачала дзейнічаць так званая сістэма адраснай сацыяльнай дапамогі, якая аказваецца асобным сем'ям і адзінокім людзям, якія жывуць у нястачы.

Яшчэ адным накірункам у рабоце цэнтра з'яўляецца дабрачыннасць. Былі праведзены такія святы, як "Сустрэча сяброў" і "Мы гэтай памяці верныя" для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, "Карусель дзяцінства" для дзяцей-інвалідаў і дзяцей са шматдзетных сем'яў, вечары для салдацкіх маці і ўдоў, прысвечаныя памяці воінаў, што загінулі ў мірны час, і інш. Сярод маламаёмных грамадзян нашага раёна неаднаразова распаўсюджваліся білеты на спектаклі ў мінскія тэатры: рускі драматычны, музычнай камедыі, юнага гледача.

У красавіку гэтага года наш цэнтр арганізаваў велікодны тыдзень міласэрнасці. Дырэктар цэнтра Т.М.Ракавец сумесна з дэпутатам парламента краіны А.В..Красуцкім наведалі ляжачых дома хворых і ўручылі ім велікодныя кулічы. Падчас гутаркі былі закрануты сацыяльна-побытавыя праблемы гэтых людзей, якія потым былі вырашаны.

У рамках тыдня сям'і супрацоўнікі цэнтра правялі шэраг мерапрыемстваў для дзяцей і іх бацькоў. Сярод дзяцей пяці- і шасцігадовага ўзросту быў арганізаваны конкурс малюнкаў на тэму "Мая сям'я". З бацькамі гэтых дзяцей праведзена анкетаванне па выяўленні стылю выхавання, уласцівага той або іншай сям'і. Псіхолаг цэнтра падрыхтаваў метадычныя рэкамендацыі для мам і тат па пытаннях выхавання дзяцей, прадастаўленыя ў распараджэнне педагогаў дзіцячых дашкольных устаноў Партызанскага раёна.

У чэрвені была праведзена дабрачынная акцыя па аказанні сацыяльна-псіхалагічнай падтрымкі інвалідам і ўдзельнікам вайны, якія знаходзяцца на надомным абслугоўванні ў аддзяленні сацыяльнай дапамогі, прымеркаваная да 60-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Сёння жыхары раёна, якія прыходзяць у тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнай дапамогі, асабліва цёплыя словы гавораць у адрас тых, хто знаходзіць магчымасць дапамагчы ім, падтрымаць як матэрыяльна, так і маральна. Сацыяльныя праблемы — гэта праблемы нашага грамадства, і спраўляцца з імі трэба ўсім разам.

**Ірына ВАЛАДЗЬКО,**
**супрацоўніца Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Мінска.**



Кармленне парасят без абмежавання па ўзроставых дозах арганізавана ў групе дагадоўвання агракамбіната "Паўднёвы" Гомельскага раёна, дзе брыгадзірам працуе малады спецыяліст, выпускнік Калінкавіцкага саўгаса-тэхнікума, а цяпер студэнт-завочнік Гродзенскага універсітэта сельскай гаспадаркі Андрэй Аўдзейчык. Такі "шведскі стол" для парасят, калі яны ядуць уволю, ужо даказаў сваю выгаду: у мінулым годзе прыбаўленне ў вазе маладняку за суткі склала па 527 грамаў — лепшы паказчык у вобласці і другі — па краіне.

НА ЗДЫМКУ: брыгадзір Андрэй Аўдзейчык.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

# Кнігі, якія паступілі ў Рэспубліканскую навукова-педагагічную бібліятэку

**573665. Авсиевич М.Т. Семейное воспитание: Учеб.пособие для соц. педагогов/ М.Т.Авсиевич. — Мн.: Веды, 2000. — 99 с.**

Цель данного учебного пособия — помощь в организации и проведении занятий и последующего самообразования педагогов. Освещаются проблемы семейного воспитания, раскрываются основные подходы к теории и практике организации работы социального педагога с семьей.

**573611. Ананченко К.О. Алгебра учит рассуждать: Пособие для студентов и учителей/ К.О.Ананченко, Н.Г.Миндюк. — Витебск: Витеб. гос; ун-т, 2000. — 112 с.**

В пособии изложены основы формирования у учащихся умения проводить рассуждения на алгебраическом материале. В книге имеется ряд задач, позволяющих раскрыть учащимся красоту и изящество математического рассуждения.

**572881. Бакулина Г.А. Интеллектуальное развитие младших школьников на уроках русского языка: 3 кл./ Г.А.Бакулина. — М.: гуманит. изд. центр Владос, 2000. — 216 с. — (Б-ка учителя нач. шк.).**

Издание содержит как теоретическую часть, так и конкретные поурочные разработки для 3 (по системе 1 — 3) и 4 (по системе 1 — 4) классов. Система обучения направлена на повышение качества устной и письменной речи детей, обеспечивает активное включение школьников в постановку и решение учебных задач.

**573732/д. Василевич Л.И. Восьмой урок — 2: Сценарий шк. праздников/ Л.И.Василевич, Н.В.Щербенок. — Мн.: Четыре четверти, 2000. — 132 с. — (В помощь педагогу-организатору).**

Сборник — четвертый выпуск серии "В помощь педагогу-организатору". В него вошли сценарии литературно-музыкальных композиций, приуроченных к общенародным праздникам: Рождество, 8 Марта, День Победы, День защитника Отечества, а также праздник Последнего звонка, вечер встречи выпускников и др.

**573736/д. Волков Б.С. Детская психология: псих. развитие ребенка до поступления в шк./ Б.С.Волков. Н.В.Волкова; Пед. о-во России. — М., 2000. — 141 с. — (Психология развития).**

В учебном пособии рассматриваются особенности психологического развития ребенка от рождения до поступления в школу: младенческий, ранний и дошкольный возраст. Весь материал представлен в виде обобщенных схематических моделей и краткого их описания. Даны контрольные вопросы, задания и задачи, а также словарь терминов.

**572761. Воспитание младшего школьника: Пособие для студентов сред. и высш. пед. учеб. заведений, учителей нач. кл. и родителей/ Сост. Л.В.Ковинько. — 4-е изд., стереотип. — М.: Академия, 2000. — 288 с.**

Повышение педагогической культуры, развитие инициативы, формирование творческого подхода к воспитанию детей возможно только в тесном союзе школы с семьей. В книге рассматриваются вопросы возрастной психологии, интеллектуального и нравственного развития личности ребенка.

**573431. Григорьев А.Д. Становление и развитие социальной работы на Беларуси (X-XX вв.): Моногр./Бел. гос. пед. ун-т. — Мн., 2000. — 218 с.**

В издании представлены история становления и развития, основные этапы, проблемы и тенденции социальной работы на территории Беларуси на протяжении десяти веков. Монография является результатом творческого осмысления истории трансформации процесса отечественной социальной работы с позиций сегодняшнего дня.

**573637. Изучение уровня воспитания школьника и уровня развития классического коллектива: Авт.-сост. И.Л.Саламатина. — Мн.: Экоперспектива, 2000. — 38 с.**

Справочное пособие предлагает ряд материалов, которые помогут классным руководителям в определении уровня воспитанности учеников и осуществлении на основе этого реального руководства самовоспитания и саморазвития своих воспитанников. Рассмотрены критерии ценностных ориентаций учащихся и качеств личности.

**573748, 573749. Культура современного урока/ И.В.Бабурова, С.В.Бадмаева, Е.Ф.Баранова и др.; Под ред. Н.Е.Щурковой.- 2-е изд., перераб. — М.: пед. о-во России, 2000. — 112 с.**

Книга рассматривает новые четы современного урока. Содержит ряд инновационных методик по организации учебной работы педагога с группой. Иллюстрирует образ современного урока, отвечающего требованиям культуры XXI века.

**573643. Куринной Г.Ч. Матматика: Справочник для абитуриентов и студентов: Полн. курс задач и упражнений/ Г.Ч.Куриной. — Харьков; М.: Фолио: АСТ, 2000. — 463 С.**

Предлагаемый справочник охватывает все разделы современного вузовского курса по математике. Предназначен для студентов технических институтов, естественно-научных факультетов университетов, а также для абитуриентов и учащихся специализированных лицеев и гимназий.

**573271. Кухарчук А.М. Психодиагностика в профессиональном самоопределении учащихся: Пособие для кл.рук., психологов, соц.педагогов общеобразоват. шк./ А.М.Кухарчк, Е.Л.Седова, В.В.Лях. — Мн.: Бел.навука, 2000. — 222 с. — Библиогр.: с.219-22.**

Книга содержит прикладные знания по психологии и профориентации. В него включены методики, используемые в профдиагностике, которые позволяют судить об индивидуально-типологических особенностях учащихся, их интересах и склонностях, профессиональной направленности на различных этапах профессионального самоопределения.

**573361. Кушнир Н.Я. Детский сад — школа. Проблемы преемственности: Пособие для педагогов дошк. урвеждений/ Н.Я.Кушнир. — МН.: Полымя, 2000. — 150 с. — Библиогр.: с.147-149.**

Пособие посвящено методологическим, социально-психологическим, педагогическим аспектам преемственности дошкольного и начального образования. Предложены психодиагностичесие методики определения готовности 6-летних детей к школьному обучению.

**573154. Ольшевская Н.В. Роль межпредметных связей русского языка и литературы в воспитании гражданского самосознания старшеклассников на уроках внеклассного чтения/ Н.В.Ольшевская. — Мн., 2000. — 39 с.**

Зажечь любовь к знаниям, языку, литературе — главная задача внеклассной работы учителя русского языка и литературы. Путей и возможностей существует множество. Автор издания остановилась на некоторых из них (клубы, тематические кружки, читательская конференция).

**572358. Павленко Ю.Г. Физика. Ответы на вопросы: Теория и примеры решения задач: Для абитуриентов и учащихся 11 кл./ Ю.Г.Павленко. — М.: Экзамен, 2000. — 191 с. — Сер.: (Экзамен).**

В пособии даются ответы на вопросы, предлагаемые для выпускных экзаменов в школе и вступительных экзаменов в вузах по физике, а также рассмотрены примеры решения типовых задач, знание которых необходимо для успешной сдачи этих экзаменов.

**573125, 573126. Петровский Г.Н. Современные образовательные технологии: Основные понятия и обзор/ Г.Н.Петровский; Нац. ин-т образования Респ.Беларусь. — Мн., 2000. — 92 с.**

В издании предложен обзор образовательных технологий, активно используемых или проходящих экспериментальную проверку в учебных заведениях республики, а также тех технологий, которые могли бы эффективно использоваться в учебных заведениях.

**573583. Савченко Н.Е. Физика в вопросах и задачах: Учеб. пособие для фак. довуз. подгот. вузов/ Н.Е.Савченко. — Мн.: Выш. шк., 2000. — 463 с.**

В пособии приведены задачи устного экзамена по физике и несколько вариантов заданий письменного экзамена, предлагавшихся в различных вузах. Проанализированы ошибки, наиболее часто встречающиеся на экзаменах по физике.

**573265. Саўко У.П. Развіццё маўлення школьнікаў пры вывучэнні марфалогіі (назоўніка і прыметніка): Дапам. для настаўнікаў/ У.П.Саўко . — Мн.: Беллітфонд, 2000. — 108 с.**

У дапаможніку раскрываюцца асноўныя напрамкі работы па развіцці маўлення вучняў на ўроках беларускай мовы. Прыводзіцца метадычная сістэма развіцця маўлення школьнікаў пры вывучэнні марфалогіі.

**573414. Современные технологии воспитания/ Авт.-сост. И.Л.Соломатина. — Мн.: Экоперспектива, 2000. — 24 с.**

В издании дан обзор категорий педагогических технологий. Раскрыто содержание педагогических операционных воздествий на ребенка в контексте взаимодействия его с окружающим миром.

**573105. Системе профессионально-технического образования 60 лет: история, воспоминания, актуальные проблемы/ Редкол.: Глав. ред. А.Х.Шкляр; Респ. ин-т проф. образования. — Мн.: РИПО, 2000. — 485 с. — Библиогр.: с.480-485.**

Книга посвящена 60-летию системы профтехобразования. Включает в себя очерки, статьи, воспоминания, в которых освещается исторический путь профтехшколы Беларуси, проблемы развития на современном этапе и прогнозы на будущее.

**573411. Сущенко Т.И. Основы внешкольной педагогики: Пособие для кл. рук., педагогов внешк. учреждений/ Т.И.Сущенко. — Мн.: Бел. навука, 2000. — 221 с.**

Пособие рассматривает принципы и методы деятельности внешкольных учреждений. Предлагает теоретические разработки общей стратегии внешкольного воспитания, направленного на стимуляцию всестороннего гармонического развития интеллектуально-творческого потенциала педагогов и детей.

**572796/д. Троицкий В.Ю. Словесность в школе: Кн. для преподавателей рус. филологии/ В.Ю.Троицкий. — М.: Гуманит. изд. центр ВЛАДОС, 2000. — 431 с. — (Б-ка учителя-словесника).**

Освещаются насущные вопросы изучения словесности в школе, объясняются некоторые основополагающие понятия, необходимые для успешного восприятия литературы в современных условиях. Раскрывается значение плодотворных традиций и новых подходов в изучении и преподавании русской словесности.

**570765. Фесюкова Л.Б. Год перед школой/ Л.Б.Фесюкова; Худож. С.А.Пятковка. — Харьков; М.: Фолио; АСТ, 2000. — 496 с. — (Сер.: Для пап и мам). — Библиогр.: с.491-492.**

Увлекательная игровая форма занятий, обилие развивающих и обучающих методик и практических советов, более 2000 игр, тестов, упражнений предназначены для оптимальной организации процесса обучения ребенка при подготовке к школе и сделать его радостным и ненавязчивым.

**573334. Чернявская Ю.В. Народная культура и национальные традиции: Пособие для учителей/ Ю.В.Чернявская. — Мн.: Беларусь, 2000. — 199 с. — Библиогр.: с.195-197.**

Издание представляет собой опыт междисциплинарного исследования широкого круга проблем, связанных с бытием современных народных культур. Произойдет знакомство с конкретными фактами из жизни народов и культур, используемыми как средство эмоционально-воспитательного общения с читателем.

**573612, 573613. Шакура С.Д. Оценка и самооценка при безотметочном обучении: Метод. рекомендации/ С.Д.Шакура; Акад. последиплом. образования. — Мн., 2000. — 19 с. — Библиогр.: с.17-18.**

Даны рекомендации по порядку проведения контроля и оценки деятельности учащихся при безотметочном обучении, а также разъяснения по работе с рефлексивным дневником "Мои успехи и достижения" при формировании самооценки у учащихся.

**573719, 573720. Щуркова Н.Е. Этика школьной жизни/ Н.Е.Щуркова. — М.: Пед7 о-во России, 2000. — 184 с.: ил.**

Издание рассматривает проблему создания в учебно-воспитательном учреждении высокой нравственной атмосферы, систему практической реализации гуманистической идеи Человека как наивысшей ценности, описываются методики работы по формированию высокой этической культуры.

